# НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 2 (202)

10 СТУДЗЕНЬ 1960 г.

БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Цана 60 гр.


# НАСТУПЛЕННЕ ПАТРАБУЕ ПАДРЫХТОЎКІ

Даўно ў нас не было шырэйшай дыскусіі аб працы нашага Таварыства, хоць не маем падстаў, каб наракаць на недахоп дыскутантаў. Дыскутуем у Галоўным праўленні, у праўленнях аддзелаў, а найчасцей — сустрэўшыся з тым ці іншым сябрам.

Давайце выкажам свае думкі публічна, тым больш, што стаім перад III З'ездам Таварыства і кожная здаровая думка прынясе толькі карысць у далейшай дзейнасці БГКТ. Добрым пачаткам гэтакай дыскусіі з'яўляецца артыкул Аляксандра Слава, сакратара Камісіі ЦК ПАРП па нацыянальным справам («Ніва» за 20 і 27 снежня 1959 г.).

Прыемна чалавеку, калі аб ім гавораць добра. Тым больш прыямней, калі яго хваляць па заслугам. Але ад гэтага аднаму можа закружыцца галава і ён у сваіх уяўленнях стане «пупам зямлі», да якога ніхто не мае права дакрануцца, — другі слухае пахвалы і разважае, што ўсё ж такі ёсць у яго і недахопы. Такі пачне шукаць прычын, якія выклікалі гэтыя недахопы, знойдзе ўрэшце на іх сродкі і ліквідуе недахопы.

Таксама мяецца справа і з арганізацыямі.

Дзейнасць нашага Таварыства на працягу ўсёй дагэтуляшняй гісторыі ацэньвалася і ацэньваецца ў асноўным станоўча.

Дык не зазнаймося і не ўяўляйма сабе, што ўсё ў нас добра, што нашы недахопы не маюць вялікай вагі. Будзем разважлівымі.

Бясспрэчным фактам з'яўляецца тое, што Таварыства ідзе добрай дарогай. Але нават на найлепшай дарозе трапляюцца ўхабіны, на якіх можна набіць сабе не аднаго гуза.

Возьмем «абаронцаў», на якіх звяртае ўвагу ў сваім артыкуле тав. Слаў.

Тав. Слаў не гаворыць, што яны ёсць і сярод беларусаў. Але ці гэта значыць, што мы іх не маем. Ёсць яны і ў нас. Іх чутна не на адным пасяджэнні, не на адным сходзе. Такія гора - дзеячы толькі і праліваюць слёзы над «беднымі» беларусамі. Гэтыя слёзы прысохлі да іх вачэй, нацягнулі на іх бельма, у выніку чаго «абаронцы» гатовы вярнуць беларусам спрадвечную сошку, ашчаслівіць іх даўно закінутымі лыкавымі лапцямі і зрэбнай кашуляй. Абы толькі захаваць традыцыі, — каб, крый божа, не дапусціць да асыміляцыі.

«Абаронцы» ,як правіла, з'яўляюцца староннікамі сацыяльнай ідыліі, хоць і дзеляць беларусаў на «добрых» і «дрэнных». Зразумела, што «дрэннымі» ў іх будуць усе тыя, хто не раздзяляе іх думак. Нацыянальную спадчыну яны ацэньваюць оптам — усю адводзяць у пазытыў. А калі нехта зверне ўвагу, што той ці іншы твор носіць рэакцыйны характар, яны нават патрапяць абурыцца і паграждаць гісторыяй, якая «не прабачыць». О, аб ёй яны надта многа думаюць.

А скажы ім, што яны нацыяналістычна падыходзяць да справы. Дык, як жа гэта! Яны ж за сацыялізм, яны нават часта ўжываюць гэтае слова. Яны нават карыстаюцца цытатамі з класікаў марксізма. Калі ласка, вызубрылі: «Не можа быць інтэрнацыяналістам той, хто не любіць свайго народа».

Далей не пытайце. Яны больш з марксізма нічога не ведаюць. Яны нават не помняць аўтара вывучанай цытаты. Але нахабнасці ў іх хапае. Любую сваю думку стараюцца прыстасаваць да марксісцкай тэорыі, а сацыялізм — да сваіх вузкіх мэтаў.

Такі маральны воблік «абаронцаў» («змагароў»).

Усё гэта не новае. Гэта адрыжка няслаўнага мінулага часоў астроўскіх, казлоўскіх, і

(Працяг на стар 2)



У ТАТРАХ

# ГАЙНАЎСКІЯ ДЫСПРАПОРЦЫІ

За гады народнай улады ў Гайнаўцы ўзніклі і развіліся прадпрыемствы хімічнай і драўлянай прамысловасці, якія зараз займаюць адно з першых месц у краіне. Яны забяспечаны навейшымі машынамі і абсталяваннем. Дзякуючы развіццю ўсё новых галін вытворчасці, Гайнаўскія прадпрыемствы з кожным годам усё больш развіваюцца, павялічваецца лік гайнаўскага рабочага класа, а вырабы іх шырока вядомыя ў розных краінах свету.

Між іншым, і таму апошняя павятовая канферэнцыя ПАРП вельмі станоўча ацаніла дасягненні гайнаўскіх рабочых. Але, хаця ў Гайнаўцы тэмпы росту прамысловасці сапраўды сацыялістычныя, ўсё ж такі Гайнаўшчына і надалей застаецца паветам тыпова сельскагаспадарчага характару.

### ЯК ЗА ПРАДЗЕДА

Гайнаўшчына мае ў пераважнай большасці дробныя гаспадаркі, на якіх сяляне гаспадараць індывідуальна. Дасягненні сельскагаспадарчай вытворчасці мераюцца ў нас атрыманымі ўраджаямі з гектара і колькасцю жывёлы на 100 гектараў угоддзяў. Як жа выглядае гэтая справа на Гайнаўшчыне?

У 1959 годзе ў сярэднім атрымана чатырох асноўных збожжавых культур па 12,9

(Працяг на стар 4)




Як мала трэба чалавеку, каб стаць вядомым. Аб Сцяпане цяпер ўся вёска гаворыць, а яшчэ нядаўна ад яго і казёл адварочваўся.

А сталася гэта так. Паехаў Сцяпан на кірмаш. Калі ўжо кірмаш набліжаўся да канца, і трэба было вяртацца дамоў, вырашыў Сцяпан выпіць чвэртку, каб арганізм прадызінфіцыраваць. Вядома, сярод натоўпа людзей бацылы могуць прысутнічаць, а лепшага сродка, як спірт, супраць мікробаў няма.

Ідзе гэтак Сцяпан з санітарна - дызынфекцыйнай думкай, а тут бачыць, пад нагамі анучавы пакунак ляжыць. Таўкануць бы гэту анучу, каб заразы не набрацца, але не, Сцяпан

# ЗНАХОДКА

праз цікавасць падымае яе і глядзіць, што там. А там каляровыя паперкі! Сцяпан хутчэй засунуў скрутак за пазуху, каб, чаго добрага, уласнік згубы не трапіўся, і крочыць да буфета з лячэбнай вадкасцю.

У душы шчасліўца бэз разцвітае, а тут нейкі незнаёмы надсоўваецца і шэпча:

— Грошы знайшоў...

— Нічога я не знайшоў, — выціснуў з сябе Сцяпан, і пачуў, як бэз у душы завяў.

Незнаёмы за рукаў Сцяпана цягне і прыгаварвае:

— У міліцыі разбярэмся... Пяць тысяч згублена... Аб гэтым увесь кірмаш гаворыць. Дай, брат, колькі не шкада і разыдземся па добраму...

Бачыць Сцяпан, што ўжо і народ пачынае звяртаць на яго ўвагу. Выцягнуў ён з кішэні свае грошы і сунуў незнаёмаму.

— Няхай цябе певень заграбе, скупая душа, — узяўшы грошы сказаў незнаёмы і знік.

Сцяпан пра дызінфекцыю забыў, ускочыў ён на фурманку і паганяе каня, каб хутчэй у поле выбрацца.

Выехаўшы ў поле, выняў з-за пазухі скрутак і разгарнуў яго. А там, замест стозлатовак, акуратна зложаны выразкі з газет. Толькі зверху дзве чырвоныя крадзіткі ляжаць, ды і тыя фальшывыя.

Дзякуючы гэтай гісторыі стаў Сцяпан вядомым чалавекам у аколіцы.

Эх, людзі мілыя, калі б ведаў чалавек, дзе ўпадзе, там бы і саломы падаслаў.

*Дзядзька Лявон*

ПАД РАЗВАГУ НЕКАТОРЫМ АКТЫВІСТАМ БГКТ.







**АНДРЭЙ САМАСЕЙ**

### ПЕСНЯ ВЯСКОВАГА АКТЫВІСТА

Ад усёй душы жадаем,
Каб паслухалі Вы нас,
Як культуру пашыраем
Мы сярод вясковых мас.

Многа так у нас культуры,
Што няма куды дзяваць.
Можам прадаваць на фуры,
Просім толькі прыязджаць.

У вёсцы нашай ёсць святліца,
Дом прыгожы — на сто пяць.
Хлопцы ходзяць там напіцца
І часамі танцаваць.

Хор у нас стаіць высока,
Усе пяюць «налей, налей»,
А найлепш дык па глыбокім,
Хто мацней і галасней.

Шмат фізічнай тут культуры
Хоць нявеламы футбол.
Хлопцы моцныя як туры,
З плоту хутка вырвуць кол.

Часам ад надмеру сіль
Каго-небудзь стукнуць так,
Што адразу да магілы
Адыходзіць небарак.

Некалі газету «Ніву»
Пісьманосец нам прынёс,
Ды з паперай нешчаслівая,
Дрэнная да папярос.

Вось, як бачыце, культуры
У нашай вёсцы заўжды шмат.
Каб прапаў настрой пануры,
Чарачку налейка-ка, брат!

# УХ, і МАРОЗ!

Дзядзька Карп гаворыць Піліпу:

— Ну й мароз, браток. У мяне ў хаце — дык жонка не паспела зняць з агню чыгун, як страва ў ім ужо замерзла, не паспеўшы нават астыгнуць.

**П. Ч.**
Беласток

# САМААБСЛУГОЎВАННЕ!

### ДРЭННЫ ЗЯЦЬ

— Ой не маю, суседка, пацехі са свайго зяця. За два месяцы з'еў цэлы пасаг.

— А шмат далі вы, суседка, за дачку?

— Дзве свінкі і дванаццаць курэй.

**УЛАДЗІМІР ПАЛЕЦКІ**
Гарбары

### ПРАЛІЧЫЎСЯ

— Гаспадар, колькі малака даюць вам гэтыя кароўкі?

— А, з трыццаць літраў будзе.

— А колькі з гэтага прадаеце?

— Калі добра пойдзе, дык літраў з сорак прадам.

**МІХАСЬ БАЎТРЫМЮК**
Белавежа

### ЗЛОДЗЕЙ

Да беднага селяніна ноччу ўлез на гару злодзей і рыецца там.

— Чаго ты там шукаеш, я ўдзень нічога не знайду, а ён хоча нешта знайсці ўначы, — спакойна сказаў селянін.

**В. В.**
Пасынкі

### ЦЯЖКАЯ ХВАРОБА

— Чаму такі бледны?

— Сёння першы раз па шасці месяцах я ўбачыў сонца.

— О, гэта, мабыць, была нейкая цяжкая хвароба? Што табе было?

— Не хапіла 5 тысяч ў касе.

**МІКОЛА БЕРАЗАВЕЦ**
Бельск

# КУМ МАЦЕЙ

(гумарэска)

Аднойчы кум Мацей пайшоў адведаць свайго кума Юрку. Напаткаўшы ля кумавай хаты Юркавага сына Езіка, запытаўся:

— Што робіць тата?

— Пачынаў есці, але калі ўбачыў вас, пакінуў яду і ўстаў ад стала, — адказаў Езік.

— Чаму? — здзіўляецца кум Мацей.

— Бацька сказаў, што вы многа з'елі б, і маці усё схавала, — адказаў хлапец.

— А дзе яна схавала? — дапытваецца кум Мацей.

— Гуску схавала за прыпечак, саланіну на печы, каўбасу з капустай паставіла ў печ, булку ў скрыню, а піва пад стол, — растлумачыў Езік.

Кум Мацей больш нічога не пытаўся і ўвайшоў у хату.

— Добры дзень, дарагі куме, — прывітаў кума Мацея кум Юрка, — шкада, што ты не прыйшоў раней, то б пад'еў з намі, а цяпер няма чым цябе пачаставаць, нічога не засталося.

— Не мог раней прыйсці, дарагі куме, бо па дарозе меў выпадак, — адказаў кум Мацей.

— А што? Кажы? — зацікавіўся кум Юрка.

— Забіў вужа, — кажа кум Мацей. — Меў ён такую белую галоўку, як тая булка, што ў скрыні. Сыты быў, як гусь, што за прыпечкам. Мяса меў такое, як саланіна, што на печы. Доўгі быў, як каўбаса, што ляжыць у капусце ў печы. Крыві меў толькі, колькі піва пад сталом.

Кум Юрка ад сораму гарэў, а кума вымушана была ставіць на стол яду і частаваць госця.

**ПАВЕЛ КАЗБЕРУК**
Боўтрыкі